

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 22 (51). Слонім. 29 траўня — 4 чэрвеня 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*

## ДОРОГИЕ ДРУЗЬЯ!

**Сегодня вы держите в руках "Газету Слонімскую", которая "потолстела" еще на 4 страницы. В недалекой перспективе "ГС" будет постоянно выходить на 12 полосах. Это позволит нам более полно информировать тебя, читатель, о жизни города и района, а также даст нам возможность публиковать сообщения для самой широкой аудитории.**

**Напоминаем, что сейчас идет подписка на нашу газету во всех отделениях почтовой связи, а также в редакции газеты. Цена на "ГС" по подписке будет значительно дешевле, чем в розничной продаже.**

**Редакция**

**"Вось я ўчора стакан вады з-пад крана выпіў і сёння жывы-здаровы".**

Менавіта такім чынам адзначыў якасць вады ў Слоніме начальнік раённай санэпідстанцыі Анатоль Чаропка на сесіі гарсавета 22 траўня пасля выступу дэпутата Міхася Варанца, які ўзняў гэтую вострую праблему.

***Чаго баяцца дэпутаты? на стр. 2***

**"Што вы ўсе пра нейкія там лагеры гаворыце, усё наша жыццё — суцэльны лагер. Не бачаць нашы падлеткі сапраўднага дзяцінства"**

***Дзе правядуць лета нашы дзеці? на стр.2***



**"Первый раз Иван Мартынович позвонил домой из Африки через месяц. Говорил ровно минуту".**

*Слонимский подполковник сидит в африканской тюрьме на стр.3*

**"А крыху ніжэй абруча, на фоне барвовага неба бачылася выява мужчыны з доўгімі валасамі, падобнага на святога"**

***Цудатворная з'ява над Слонімам на стр.3***

**КАК МОЖНО УЕХАТЬ ИЗ СЛОНИМА ПО ЖЕЛЕЗНОЙ ДОРОГЕ?**

***Расписание пассажирских поездов с 24 мая 1998 г. на стр.5***



**«А самы вялікі грэх, які не даруе мне Бог, што не паехаў на пахаванне роднай маці...»**

***Вельмі не хочацца паміраць у 28 гадоў на стр. 5***




**По просьбе наших читателей: РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКОГО ТРАНСПОРТА (по данным автопарка №3)** *на 9-10 стр.*

**ЗДАРЭННІ**

## Грэшны бізнес

**Днямі адбыўся суд над жыхаркай з Падлеснай вуліцы Любоўю Ігнацік, якая крала кветкі з гарадскіх могілак. Адна са сведак падчас працэса заявіла, што "людзі месяцамі малілі Бога, каб затрымаць гэту зладзейку".**

У выніку разгляду справы высветлілася, што Ігнацік збірала кветкі з магіл і прадавала на рынку. Адзін букет штучных кветак яна ацэньвала ў 250 тысяч рублёў. Трэба ж былоададумацца: адымаць кветкі ў мёртвых і прадаваць іх жывым.

За гэта дзікунства суд аштрафаваў яе на 500 тысяч рублёў.

## Аварыя на трасе

**На мінулым тыдні на трасе Слонім-Баранавічы здарылася аварыя.**

"Аудзі-100", на якой ехалі дзве жанчыны, нечакана з'ехала ў кувет і перакулілася. Абедзве жанчыны з калецтвамі змешчаны ў бальніцу.

## Правілы, напісаныя крывёю

**Нездарма ў народзе кажуць, што правілы тэхнікі бяспекі напісаны крывёю, а таму іх невыкананне нярэдка прыводзіць да калецтваў.**

Так рабочаму райсельгасмунгаса Шч., што працаваў на фрэзерным дрэваапрацоўчым станку, на якім адсутнічала ахоўная агарожа, адрэзала чатыры пальцы на левай руцэ. Чалавек назаўсёды стаў інвалідам.

Падобнае здарылася і са станочнікам Жыровіцкага саўгаса-тэхнікума Л., якому на стругальным станку адрэзала два пальцы.

## Усё выпіць не паспелі

**На мінулым тыдні ў вёсцы Акунінава быў абрабаваны магазін.**

Злодзеі вынеслі віна-гарэлачных вырабаў і прадуктаў на суму звыш 13 млн. рублёў. Аднак усё выпіць і з'есці не паспелі. Іх затрымала міліцыя.

## І на двух веласіпедах не ўцяклі

**З хлява жыхаркі С. з Сельскай вуліцы зніклі два веласіпеды, пра што яна паведаміла ў міліцыю.**

Праз некалькі гадзін злодзей Ф. быў затрыманы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ГОРАД** *Нашы праблемы*

## І зноў чэргі за цукрам...



Пэўны час у слонімскіх крамах не было цукру. І вось, нарэшце, ён з'явіўся. Адначасова ўзніклі і чэргі. У адну з іх у магазіне "Спадарожнік" стаў і наш карэспандэнт. Там ён даведаўся, што цукар прадаюць па кілаграму ў адны рукі. Кошт значна ніжэйшы за рынкавы — 25400 рублёў. Яе паведаміла дырэктар "Спадарожніка" Аляксандра Яблонская, у магазін завезены 4 тоны цукру. А як толькі яго прададуць, дык прывязуць яшчэ.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ...і за вадой

Нездарма народ сцвярджае: без вады – ні туды і ні сюды. У мінулыя панядзелак і аўторак у жыхароў Брэсцкай вуліцы і Ф.Скарыны ў кранах не было ні гарачай, ні халоднай вады.

У гэты густанаселены мікраёны былі накіраваны аўтацыстэрны з пітной вадой. Ля іх з вёдрамі і з іншым посудам людзі дружна выстраіліся ў чаргу. Вядома, гэта нязручна і нязвыкла, але іншага выйсця не было.

**Міхась АКУЛКА**



## Почём нынче доллар?

**В этом году стало уже традицией, что период с 10 по 15 числа каждого месяца является неблагоприятным для белорусского рубля на "черном" валютном рынке.**

Например, в марте доллар подорожал на 7,9%, в апреле – 8,3%. А с начала мая "черный" наличный доллар вырос на 5,2% и в начале этой недели средний его курс в Слониме достиг отметок 55000-57000 рублей. В то же время, в обменных пунктах банков средняя котировка одного доллара на 28.05 составила с 47000 до 47500 рублей.

Впрочем, по прогнозам валютчиков, на предстоящей неделе котировки должны стабилизироваться на достигнутом уровне.

Тем временем в Вашингтоне состоялась презентация новой купюры достоинством 20 долларов США, обладающей высокими защитными свойствами, среди них – увеличенный портрет бывшего президента Эндрю Джексона, изображение которого стало более детальным, а также рисунок из тонких линий, образующий фон этого портрета. Если наклонить купюру, то заметно, что зеленый цвет меняется на черный и – наоборот. Если подержать банкноту против света, можно увидеть водяной знак с правой стороны, а с левого края – специальную нить, на которой нанесены крошечные буквы и мелкая графика. 20-долларовая купюра, по мнению министра финансов Соединенных Штатов Роберта Рубина, является самой популярной среди купюр высокой деноминации, и поэтому именно такие банкноты чаще всего подделывают фальшивомонетчики в США.

**Наталья ФУРСОВА**

**ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК**

Цены (в тыс.руб.)

| | 13.05 1998 | 27.05 1998 |
|---|---|---|
| апельсины | 45-47 | 45 |
| бананы | 75 | 75 |
| яблоки | 23-25 | 20-23 |
| морковь | 10 | 8-10 |
| лук | 50 | 42 |
| лук зелёный(пучок) | 8-10 | 10-15 |
| чеснок | 60-65 | 60 |
| редиска(пучок) | 10-12 | 8-10 |
| картофель | 6-6.5 | 6-6.5 |
| огурцы | 60 | 65 |
| помидоры | 90 | 80-90 |
| молоко (1л.) | 7 | 7 |
| творог | 20 | 14 |
| масло сл. | 90 | 90 |
| яйца (1дес.) | 25-28 | 28 |
| свинина | 60-150 | 65-150 |
| сало солёное | 90-95 | 90-95 |
| мед | 200 | 200-210 |
| свекла | 5 | 5-6 |
| сметана | 14-15 | 14 |
| лимоны | 65 | 65 |
| говядина | 60-140 | 65-140 |
| ячмень (1 кг) | 6-6.5 | 6-6.5 |
| телятина | 60-130 | 65-140 |
| пшеница (1 кг) | 7-7.5 | 7-7.5 |
| цыплята (1 шт.) | 13 | 13 |
| поросята | - | 900-1300 |
| куры | - | 120 |



# Чаго баяцца дэпутаты?

Як вядома , на мінулым тыдні адбылася чарговая сесія гарадскога Савета, на якой дэпутаты абмяркоўвалі шэраг пытанняў. У тым ліку ў раздзеле "Рознае" дэпутаты прымалі рашэнне па акрэдытацыі на сесіях гарсавета карэспандэнтаў "Газеты Слонімскай".

Старшыня гарасавета Мікалай Лішык адразу выказаў сваю асабістую думку: "Я не хачу, каб тут сядзеў карэспандэнт "Газеты Слонімскай". Яго падтрымаў і галоўны ўрач раёнай бальніцы Аляксандр Гулінскі, які аргументаваў гэта тым, што "нельга дапусціць, каб словы, выказаныя тут, станавіліся мерканнем многіх слонімцаў".

А начальнік ЖЭС-2 Мікалай Сыантовіч сваё "супраць" патлумачыў нібы неаб'ектыўным асвятленнем газетай яго выступлення на мінулай сесіі і пакрыўдаваў на "ГС" за карыкатуру. "Добра, што нагавіцы не спусцілі (маецца на ўвазе на карыкатуры – **В.В.**)... Ды я ім кожны дзень магу выказваць прэтэнзіі па месцу жыхарства і артыкулы пра іх магу пісаць", – заявіў гэты дэпутат.

Мы, Мікалай Мікалаевіч, ловім Вас на слове і згодны прадставіць газетную плошчу любога памеру для вашай публікацыі. А таксама для вашых калег-дэпутатаў, якія дружна былі супраць акрэдытацыі карэспандэнтаў нашай газеты. Гэта, у прыватнасці, для Людмілы Гаркавай, Анатоля Чаропкі, Васіля Духоўніка, Юрыя Бяссонава, Анатоля Юзвовіча, Анатоля Лагуціка, Анастасіі Шляхценка і іншых. Так што, шаноўныя выбраннікі, у вас ёсць выдатная магчымасць выказацца.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Нас становится все меньше

**На 1 апреля 1998 года численность населения Беларуси составила 10196,7 тысячи человек, уменьшившись с начала года на 7,1 тысячи. Основным фактором сокращения численности населения страны остается его естественная убыль.**

В результате болезни системы кровообращения умерло 18.490 человек, органов дыхания – 1.758, а в результате несчастных случаев отравления и травмы – 3.951 человек.

# Любишь — не любишь...

**В 1998 году в Беларуси сохраняется тенденция к росту числа разводов, и этот показатель у нас считается одним из самых высоких среди стран СНГ и Балтии.**

В 1997 году в республике на 100 браков приходилось 68 разводов. В результате в Беларуси ежегодно около 40 тысяч детей в возрасте до 18 лет остаются в неполных семьях.

**БелаПАН.**

# Сувязь падаражэла

**Белпошта ў чарговы раз зноў падвысіла кошты перасылкі пісьмаў у краіны СНД і Балтыі, а таксама ў "далёкае" замежжа.**

Цяпер, як адзначае беларускі друк, на звычайнае пісьмо вагой да 20 грамаў па СНД трэба наклеіць марак на 3800 рублёў. Авіяпісьмо ў "далёкае" замежжа будзе каштаваць 9400 рублёў, а пісьмо, што пойдзе наземным шляхам – 5800 рублёў. Для пісьма ў Літву і Латвію тарыф такі ж, як і для краінаў СНД. Затое да краінаў "далёкага" замежжа паштавікі адносяць Эстонію і Азербайджан.

Падаражэлі таксама і тэлефонныя размовы з краінамі СНД і Балтыі.

**Н.Ф.**

# Камсамольцы XXI стагоддзя?

**У Слоніме прайшлі гарадская і раённая справаздачна-выбарчыя канферэнцыі "Белорусского патриотического союза молодежи" (БПСМ).**

Гарадскія патрыёты сабраліся ў вялікай зале РДК, а раённыя – у Доме саветаў. Падчас іх работы ўдалося пабачыць і "брытагаловых" дэлегатаў, надзвычай прадстаўнічы прэзідыум, лозунгі, накшталт: "Молодежь в ответе за судьбу Отечества!". Здзіўляла толькі, што практычна ўсе функцыянеры і дэлегаты БПСМ выступалі толькі па-руску. На гарадской канферэнцыі ў прэзідыум з залы на гэтую тэму нават паступіла запіска, на якую намеснік старшыні гарвыканкама Войцэх Угрыновіч, спасылаючыся на закон аб двумоўі, заявіў, што кожны чалавек можа гаварыць так, як хоча (або можа?)...

Кіраўнік раённага БПСМ Вячаслаў Апановіч пачаў свой выступ вельмі ўдала: "Вот и подходит к концу XX век...". Ён шмат гаварыў пра поспехі, трохі пра праблемы і няўдачы, спыніўся на асноўных накірунках дзейнасці БПСМ. Аказалася, што вырашэнне праблемы занятасці моладзі ў планах патрыётаў стаіць пасля стварэння і развіцця фізкультурнага і ваеннапатрыятычнага і нават цімураўскага (!) руху. В.Апановіч паабяцаў адрадзіць і будаўнічыя атрады.

Выступоўцы скардзіліся на недахоп сродкаў, бо з рэспубліканскага бюджэту грошы паступаюць толькі на зарплату функцыянераў БПСМ. Напрыклад, за чатыры месяцы гэтага года раённыя патрыёты атрымалі на гэтыя мэты ўсяго 64 млн. руб. А вось на правядзенне мерапрыемстваў даводзіцца шукаць спонсараў.

Ну, а што дэлегаты? Падчас размовы ў кулуарах хлопцы і дзяўчаты з горада і раёна казалі, што БПСМ дае ім шматлікія ільготы, якія можна скарыстаць, напрыклад, пры паступленні ў ВНУ. А ідэалогія і высокія словы функцыянераў іх не цікавяць. Яны думаюць пра сваю будучыню, якую, як гэта і не сумна, цяжка будзе пабудаваць без білета члена "Белорусского патриотического союза молодежи"...

**Сяргей ЁРШ**

ТРЫБУНА

# ДЗЕ ПРАВЯДУЦЬ ЛЕТА НАШЫ ДЗЕЦІ?

У мінулы панядзелак, 25 траўня, у школах прагучаў апошні званок. Напярэдзе канікулы.

Дзе правядуць іх слонімскія дзеці? З такім пытаннем карэспандэнт "ГС" звярнуўся да жыхароў горада.

***Кацярына Міхайлаўна, бухгалтар:***

–Дзеці мае ўжо дарослыя. А праз два тыдні я разам з двума ўнукамі паеду адпачываць у Польшчу. Летась мы ужо там былі і нам вельмі спадабалася. Пасля лячэння і добрага догляду хлопчыкі былі бадзёрымі ўвесь вучэбны год.

***Мікалай, работнік цэнтральнай механічнай майстэрні КПФ:***

–Ужо некалькі гадоў запар мае дзеці з задавальненнем адпачываюць у лагеры нашай фабрыкі, што каля вёскі Паўлава. На мой погляд, там нядрэнныя ўмовы і харчаванне. А галоўнае – свежае, чыстае паветра і Шчара. Што яшчэ трэба дзецям?

***Тамара, работніца кардонна-папяровага завода "Альбярцін":***

–Не ведаю, дзе ўзяць каля 4 мільёнаў рублёў, каб аплаціць пуцёўку ў лагер у Паўлава. Нават калі і дапаможа прафсаюзная арганізацыя, усё роўна прыйдзецца выкласці больш як паўтара мільёна.

***Марыя Іванаўна, жыве на вуліцы Яршова:***



*Фота з архіва рэдакцыі «ГС»*

–Я вельмі задаволена, што ў 10-й школе на канікулах будзе дзейнічаць лагер адпачынку "Эрудыт". Майму сыну пашчасціла трапіць туды. Вельмі добра, што з дзецьмі будуць займацца лепшыя настаўнікі горада. Акрамя адпачынку для школьнікаў запланаваны конкурсы, вікторыны па фізіцы, матэматыцы, а пагдругое – за 18 дзён мне прыйдзецца заплаціць усяго 90 тысяч рублёў. Больш грошай я не змагла б выдзеліць са свайго сціплага сямейнага бюджэту.

***Вольга, 62 гады, жыве на Рэзках. Пасля майго пытання праслязілася:***

–Ніколі не было ў мяне, сыночак, такіх прыемных клопатаў, як адпраўляць дзяцей на адпачынак у лагер. Не даў мне бог ні сына, ні дачкі. Жывем з мужам, нібы два пні... Прыйдзецца паміраць – вады падаць нават не будзе каму...

***Іван, механізатар калгаса «1 Мая»:***

–Гэта вы ў горадзе ламаеце галаву, чым заняць дзяцей усё лета, а ў вёсцы такой праблемы няма. Кожны год мой сын працуе разам са мной на камбайне. Цяжка? А мне хіба лёгка? Няхай прывыкае і ведае цану хлеба. Усе зароблены ім грошы ён атрымае цалкам.

***Мікалай Паўлавіч, муляр будаўнічай арганізацыі:***

–Ніколі ні ў якія лагеры я сваіх дзяцей не пасылаў. Лічу, што няма летам лепшага адпачынку, як на дачы ў Чамярах. Побач лес, возера і плацяць за гэта не трэба. Акрамя таго, няма праблемаў працоўнага выхавання: мае дочкі полюцьградкі ўсё лета. Робяць яны гэта з ахвотай.

***Пануры мужчына, на выгляд гадоў 60, каля гарадскога рынку:***

–Што вы ўсё пра нейкія там лагеры гаворыце, усё наша жыццё – суцэльны лагер. Не бачаць нашы падлеткі сапраўднага дзяцінства.

Апытаў
**Валянцін ЧУРЫЛА**

# Нашы "зорачкі"

**У ЦДЮТ прайшло свята песні "Слонімскія зорачкі", у якім прымалі ўдзел навучэнцы 1-4 класаў школ горада.**

У выніку лепшымі з лепшых сталі Зяровіч Вольга (СШ №4), Відусаў Кірыл (ЦДЮТ) і Шэгідзевіч Джамілія (СШ №2).

**Яўген ІВАНОЎ**

# "Усе мы родам з дзяцінства"

**Дыпламантамі тэлевізійнага конкурсу "Усе мы родам з дзяцінства" сталі сямікласніцы СШ №8 Наталля Ефімовіч, Ірына Якуцэня і Ірына Сундукова.**

Сваімі поспехамі слонімскія дзяўчынкі ў многім абавязаны іх музычнаму кіраўніку Ларысе Юрык.

**М.К.**

# Слонім багаты шашыстамі...

**У Гродна прайшло першынства вобласці па шашках сярод каманд пазашкольных устаноў.**

Ад нашага горада ў спаборніцтвах прымалі ўдзел 10 шашыстаў ЦДЮТ, якія занялі другое агульнакамандное месца.

Удала выступілі Алеся Амагамедава (СШ №10), Сяргей Чэкан (СШ №3).

# ...і шахматыстамі

**У СШ №1 прайшлі занальныя спаборніцтвы па шашках і шахматах у праграме абласной рабочай спартакіяды.**

За каманду нашага горада гулялі Казімір Аляксейчык, Аляксандр Аніська, Васіль Гарасюк, Ніна Раманюк і Таня Давыдзенка. Супернікамі нашых шашыстаў былі каманды з Зэльвы, Дзятлава і Навагрудка.

Слонімцы перамаглі і выйшлі ў фінал. У асабістым заліку Аляксандр Аніська заняў першае месца. Пераможцам сярод шахматыстаў стаў Уладзімір Літвін

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 28 траўня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.600 экз.
Заказ № 1689.
© «Газета Слонімская».
Спасылка на «ГС» абавязковая.
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

# СЛОНИМСКИЙ ПОДПОЛКОВНИК СИДИТ В АФРИКАНСКОЙ ТЮРЬМЕ



**Вот уже почти два года слонимчанин Иван Мартынович, подполковник запаса, находится в плену у путчистов западноафриканской страны Сьерра-Леоне. О нем и других боевых вертолетчиках, которые пропали без вести в африканских джунглях, недавно написали российские и белорусские газеты. Мы же постараемся немного подробнее рассказать о нашем земляке.**

### "Дикие гуси"

Оказывается, наши профессионалы-летчики пользуются большим спросом в "горячих точках" мира. Многие 40-летние офицеры, вышедшие на пенсию, в поисках заработка соглашаются на любые условия "вербовщиков". Интересно то, что "торговцы" военными спецами знают почти все о наших офицерах. По мнению компетентных людей, подобная информация к "вербовщикам" могла попасть только из отдела кадров Министерства обороны... Значит чиновники этого военного ведомства на продаже конфиденциальной информации имели неплохие дивиденды.

Как сообщают "Известия" и "Звязда", в Беларуси вербовкой военных занимались несколько белорусских фирм, и среди них: "Трансавиаэкспорт" и "Авиатехносервис". (Сейчас их представители категорически отрицают свою причастность. Тем не менее их деятельностью заинтересовался Комитет государственной безопасности). Всего в Сьерра-Леоне с 1995 года было переправлено несколько экипажей "диких гусей" (так называют там наших военных "наемников"), один из которых был белорусским.

Сьерра-Леоне считается самой неспокойной страной на африканском континенте. Там постоянно происходят военные перевороты и джунгли кишат партизанами из "Революционного объединенного фронта".

### Как "афганец" стал "африканцем"

Жена Ивана Мартыновича Антонина Александровна встретила меня радушно. Ее уже который день донимают телефонными звонками московские и минские журналисты. Я был первым, кто непосредственно пришел к ней в гости и попросил рассказать о муже.



*Иван Мартынович стоит у своей железной "стрекозы".*

...Родился Иван Мартынович в Одессе, в октябре ему исполнится сорок пять. В армии прослужил 20 лет инженером авиации. За это время с семьей объехал весь Советский Союз, около трёх лет воевал в Афганистане, служил в Германии. Ушел в отставку в звании подполковника, жил в Слониме, был предпринимателем.

В 1995 году в Минске активно действовали фирмы, которые переправляли военных специалистов на работу за границу. Вышли они и на Мартыновича. Он согласился и стал в очередь для отправки. По словам жены, Иван скучал по своему любимому делу... А в мае-июне 1995 г. позвонили из Минска – нужно было ехать. Так бывший "афганец" стал "африканцем".

### До и после переворота

Первый раз Иван Мартынович позвонил домой из Африки через месяц. Говорил ровно минуту. Он сказал, что жив-здоров, интересовался как жена и дети. Оказалось, что раньше он связаться не мог, так как на этот звонок нужно было заработать... Еще не раз он будет связываться с семьей по телефону, а спустя шесть месяцев объявится сам – приедет в отпуск.

Было это в январе 1996 года. Первые 10 дней Мартынович пролежал в кровати не вставая. Он тяжело переносил перемену климата. А потом начал собираться обратно в Африку. Дело в том, что ему и его товарищам не заплатили обещанные деньги. А африканцам очень уж понравились наши специалисты, вот и не хотели под любым предлогом их отпускать. Поэтому деньги пообещали выплатить позже.



*Наш земляк (справа) на африканской земле со своим боевым коллегой.*

По словам другого слонимского вертолетчика, который также побывал в Сьерра-Леоне, их работа заключалась в перевозке на вертолетах МИ-8 различных грузов, людей, возили даже президента страны. Были там и свои летчики-африканцы, которые когда-то учились у нас летать, но специалисты из них получились никудышные...

Однажды Мартынович позвонил в Слоним и сказал, что 25 мая (1997 года) выезжает домой. Но как раз в этот день в Сьерра-Леоне произошел военный переворот. Группа младших офицеров свергла законно избранного на демократических выборах в 1996 году 66-летнего президента Ахмада Теджана Кабба. "Диких гусей" захватили путчисты, которые заставили их работать, но уже на себя. Наши вертолетчики стали заложниками.

### В списках погибших и плененных не значится...

После переворота Иван позвонил жене. Их разговор записывался на пленку и переводился на английский язык. Понятно, что ничего о своем реальном положении он не мог тогда сказать. Ограничился, как обычно, общими фразами. Сказал, что обстановка нормализуется и все будет хорошо, просил не переживать. А еще сообщил, что ранен в руку, но не сказал в какую...

В августе 1997 г. началась блокада Сьерра-Леоне – Экономическое сообщество западноафриканских стран направило миротворческий контингент для "усмирения" мятежников. Нигерийские военные обстреляли из артиллерии столицу – Фритаун, где жили наши вертолетчики. Погибло много мирных жителей, морг был переполнен и трупы или сжигали, или сбрасывали в реку...

"Миротворцы" выбили путчистов из столицы и загнали их в джунгли. К власти вновь вернулся президент Ахмад Теджан Кабба. А наши вертолетчики исчезли. Последний раз МИ-8 с белорусскими опознавательными знаками засекли радары нигерийских военных над территорией соседней Либерии. Позже стало известно, что МИ-8 приземлился в этой стране, а всех, кто был в вертолете, арестовали. Искали лидера путчистов – подполковника Джона Корому, но его там не было. По одной из версий, наш экипаж вначале доставили в штаб-квартиру Экономического сообщества западноафриканских стран в Монровии (столица Либерии), а затем привезли для продолжения допросов в Лагос, в Нигерию.

Поиском белорусских военных занялось Министерство иностранных дел Беларуси, но ситуация усложнялась отсутствием в Западной Африке белорусских консульств. Пришлось действовать через российский МИД. Но из Либерии и Сьерра-Леоне поступала одна информация: члены экипажа МИ-8 в списках погибших и плененных не значатся...

### Деньги на билет для возвращения из плена

По словам Антонины Мартынович, в пятницу, 22 мая, ей позвонили из Минска, из МИДа. Сказали, что муж, как и остальные вертолётчики, сидит в нигерийской тюрьме, куда их перевезли из Либерии. Там они дают показания следственным органам. В Нигерию уже вылетел белорусский дипломат, который должен узнать почему и на каком основании их держат под арестом. А ещё передали, что нужна большая сумма денег в валюте, чтобы оплатить билет мужа из Африки.

### Романтик и поэт

Еще в Афганистане Иван Мартынович начал писать рассказы, стихи, песни. Писал о войне, о любви, о том, что видел, чувствовал:

*А может быть...*
*ведь здесь война...*
*Теряет кровь, мгновенья, жизнь,*
*В последний раз зовет тебя*
*И умирает эта мысль...*
*И может быть, прижав к груди*
*Металл холодный автомата*
*Шепнет в последний раз "живи,*
*всегда живи —*
*любовь солдата"...*

Антонина Александровна говорит, что, возможно, Иван пишет стихи, и в Африке. Еще дома Мартынович задумал написать роман, а после африканских приключений, впечатлений хватит, наверное, на несколько томов. Главное – чтобы вернулся живым и здоровым.

Каждый день Антонина Мартынович слушает кассеты с голосом мужа – он читает стихи и поет свои песни. Хоть Иван сейчас далеко, но в эти минуты кажется, что он рядом... А еще хочется верить, что африканские приключения нашего земляка закончатся благополучно и все "дикие гуси" вернутся на свою Родину...

**Сергей ЁРШ**

**НЕВЕРАГОДНА**

# Цудадзейная з'ява над Слонімам

**Незвычайную з'яву нядаўна назірала жыхарка з вуліцы Сінічкіна баба Зося (менавіта так яе завуць суседзі).**

Па яе словах, выйшаўшы пад вечар на свой падворак, яна раптам убачыла, што вакол сонца зіхаціць яркі вогненны абруч, ад якога ва ўсе бакі выходзілі прамені, падобныя на стрэлы. Яны настолькі былі бліскучымі, што вачам было балюча на іх глядзець. А крыху ніжэй абруча, на фоне багровага неба вылучалася выява мужчыны з доўгімі валасамі, падобнага на святога, якіх мы бачым на іконах. Як сказала баба Зося, гэты цуд адбыўся 14 траўня, пасля 19 гадзін. Калі глядзець у бакі час на сонца з яе падворка, то яно якраз знаходзіцца над вёскай Грыбава. Відовішча было настолькі ўражваючым, што яна пачала клікаць да сябе сваіго швагра, які побач корпаўся каля хлява. На крык прыбег і пляменнік. Потым збегліся суседзі. Цуд яны назіралі прыкладна з паўгадзіны, а пасля ўсё знікла.

Назаўтра, амаль у той жа час, усё зноў паўтарылася.

Пра незвычайную з'яву яна паведаміла ксяндзу касцёла св. Андрэя айцу Вітольду.

Ён у сваю чаргу так пракаментаваў гэту з'яву карэспандэнту "ГС":

–Я звязваю цуд са знаходжаннем у той час у Слоніме цудатворнай фігуркі Фацімскай Божай маці. Відаць, яна папярэджвае ўсіх нас, грэшных, што патрэбна змяніць свой лад жыцця, пакаяцца ў грахах і стаць лепшымі.

Святар адзначыў, што пра гэты цуд яму паведаміла таксама жанчына з Камсамольскай вуліцы.

Што на самой справе назіралі людзі ў слонімскім небе, застаецца загадкай.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ПОШТА

# Хопіць грашыць супраць логікі

Аўтобус па маршруту Слонім-Едначы, які едзе праз Голі, адпраўляецца за некалькі хвілін да прыходу цягніка №6426 Ваўкавыск-Баранавічы. У выніку ... "кукуй" цяпер да самай раніцы, калі ты, скажам, прыехаў у Слонім у пятніцу ці суботу, дык чакай да серады, бо гэты аўтобус курсіруе чатыры разы ў тыдзень (серада, пятніца, субота, нядзеля). Урэшце, каб зручней было разабрацца, нагадаю, што цягнік прыбывае на станцыю Слонім у 17.50, а час адпраўлення едначоўскага аўтобуса ў 17.40. Розніца ўсяго 10 хвілін... Выйдзе люд з цягніка і што ёсць моцы імчыцца на прыпанак, каб захапіць на стаянцы аўтобус, спадзяючыся на марудлівага шафёра ці добрага дыспетчара. Альбо, як здарылася 25 красавіка, аўтобуса і след прастыў. Пачынаецца блуканне па пакутах. Бяры ногі ў рукі і вандруй з клункамі 25-30 кіламетраў да Едначоў.

Раней, гадоў некалькі назад, аўтобус Слонім-Едначы адпраўляўся ў 18 гадзін, таму людзі з цягніка на аўтобус паспявалі. Затым у аўтапарку "перабудаваліся", але не ў лепшы бок. Аўтобус адпраўляецца амаль пусты, а пасыжыры з цягніка застаюцца ў Слоніме, ды прытом не 1-2, а больш за дзесятак чалавек. Прыходзіцца толькі здзіўляцца такой абыякавасці кіраўніцтва аўтапарка да эканамічных выгод свайго прадпрыемства.

Неяк я паспрабаваў гэтае пытанне вырашыць з дапамогай намесніка начальніка Гродзенскага аўтатрэста. Той звязаўся па тэлефоне з кіраўніцтвам слонімскага аўтапарка №3, там паабяцалі тэрмінова справу ўладзіць і нават аб'вы на аўтастанцыі весці на роднай мове. Маўляў, Беларусь пачынаецца з вакзала...

Нялепшае становішча і ў пасажыраў, якія ездзяць на Жыровічы. Нагадаю, 836 цягнік Гродна-Баранавічы прыбывае на станцыю Слонім у 18.55, а апошні аўтобус (акрамя нядзелі) Слонім-Жыровічы адпраўляецца ў 19.00. Словам, упрыцірку.

Таксама шмат непаразуменняў і з рухам гарадскіх аўтобусаў. Іх расклад руху не заўсёды стасуецца з прыбыццём цягнікоў.

Дык ці не пара Слонімскаму аўтапарку №3 перагледзець расклад руху аўтобусаў у лепшы бок і перастаць грашыць супраць логікі.

**Іван ЦІМАФЕЙЧЫК, вёска Мадзейкі, Зэльвенскага р-на**

ГОРАД *нашы людзі*





## РАСПИСАНИЕ ПАССАЖИРСКИХ ПОЕЗДОВ с 24 мая 1998г.

### ПО СТАНЦИИ СЛОНИМ

| номер поезда | направление | приб. | отпр. |
|---|---|---|---|
| 667 ежедн. | Могилев-Гродно | 1-30 | 1-33 |
| 6038 понед. | Гродно-Барановичи | 2-23 | 2-47 |
| 247ч/з 4 дня | Днепропетровск-Гродно | 3-52 | 3-55 |
| 688 ежедн. | Гродно-Могилев* | 4-54 | 4-59 |
| 6034 ежедн. | Гродно-Барановичи | 6-15 | 6-16 |
| 6421 вт, чт, сб, вс | Барановичи-Слоним | 9-02 | — |
| 6031 ежедн. | Барановичи-Гродно | 9-41 | 9-43 |
| 6422 вт, чт, сб, вс | Слоним-Барановичи | — | 10-00 |
| 6423 сб, вс | Барановичи-Волковыск | 12-10 | 12-12 |
| 6425 ежедн. | Барановичи-Волковыск | 13-17 | 13-18 |
| 6605 пт, сб, вс | Барановичи-Гродно | 15-10 | 15-13 |
| 6424 сб, вс | Волковыск-Барановичи | 15-11 | 15-14 |
| 6426 ежедн. | Волковыск-Барановичи | 17-45 | 17-47 |
| 6036 ежедн. | Гродно-Барановичи | 19-04 | 19-06 |
| 6606 пт, сб, вс | Гродно-Барановичи | 20-56 | 20-58 |
| 6033 ежедн. | Барановичи-Гродно | 22-04 | 22-06 |
| 248 ч/з 4 дня | Гродно-Барановичи | 23-51 | 23-58 |
| 6039 пятн. | Барановичи-Гродно | 23-56 | 23-57 |

***Примечание.** В связи с производством путевых работ поезд № 668/667 Гродно-Могилев отправлением из Слонима 28 мая и 1 июня устанавливается в сообщении Гродно-Осиповичи-Гродно*

### ПО СТАНЦИИ ГРОДНО

| | |
|---|---|
| 668 Гродно-Могилев | 0-10 |
| 667 Могилев-Гродно | 16-12 |
| **пригородные поезда** | |
| Гродно-Волковыск-Барановичи | 2-26 |
| Гродно-Волковыск-Барановичи | 14-30 |
| Гродно-Барановичи | 22-33 |
| Гродно-Барановичи | 18-15 |

### ИЗ БАРАНОВИЧ

Лида (через Новоельню) 5-20, 8-30, 12-15 вых., 17-12, 20-20
Гродно (через Волковыск) 22-33 вых., 13-58 вых.
Волковыск 8-10, 10-55 вых., 11-50, 20-34
Лунинец 8-00, 17-20, 18-40 вых.
Ян. Полесский (через Лунинец) 17-20
Брест 3-29, 6-48, 13-45, 16-06, 22-40

### НА БАРАНОВИЧИ (отправление со ст. Минск-Пассажирский)

Барановичи 3-57 ежедн. б/о 822-ой км
Барановичи 5-03 ежедн. с ост. Фаниполь, Койданово, Негорелое, Столбцы, Городея
Барановичи 7-17 вых., пятн. б/о 822-ой км
Барановичи 11-32 вых. б/о 822-ой км
Барановичи 13-11 ежедн. б/о Птич, Вовковичи, Береже, Станьково, Клыповшчина, 806-ой км, Мези новка, Отцеда, 822-ой км
Барановичи 14-10 ежедн. б/о Мезиновка, Отцеда, 822-ой км
Барановичи 19-12 ежедн. б/о 822-ой км
Барановичи 20-20 ежедн. б/о 822-ой км

### НА БАРАНОВИЧИ (отправление со ст. "Институт культуры")

Барановичи 0-33 ежедн. до ост. Помыслище везде, дальше с ост. на станциях
Барановичи 10-30 ежедн. б/о 822-ой км
Барановичи 16-09 ежедн. б/о 822-ой км
Барановичи 16-59 ежедн. б/о Гай, Птич, Станьково, Мезиновка, Кучкуны, 822-ой км, Синява
Барановичи 21-15 ежедн. до ост. Кучкуны везде, дальше с ост. по станциям

ЗАМЕТКА Ў ГАЗЕТУ

# Шануйце бацькоў

Усе мы з маленства ведаем бацькоўскую ласку. З маленства іх рукі адорваюць нас цеплынёй і дабрынёй. Бацькі – слова не простае, а святое. У їм цэлае наша жыццё. Але, на жаль, яны не вечныя.

Шануйце бацькоў сваіх! Іх жыццё – гэта вы, іх дзеці. Вы іх радасць і клопаты, гонар і слёзы. Маршчынка ля вачэй матулі і таты – год страчанага жыцця. А калі палічыць іх – колькі атрымліваецца гадоў!.. Не крыўдзіце бацькоў, дапамагайце ім і клапаціцеся пра іх! Кожны дзень рабіце ім маленькі, добры сюрпрыз. Рабіце гэта і ўбачыце, як вочы бацькоў напоўняцца прамяністымі агеньчыкамі-смяшынкамі.

Любіце іх, думайце пра іх – і працягнуцца дні вашы на Зямлі.

**Яна КУКЛІЦКАЯ, 13 гадоў**

# Расце колькасць жабракоў

З болем у сэрцы я гляджу на жабракоў, якіх апошнім часам можна часта бачыць на гарадскім рынку. Вось з працягнутай рукой стаіць жанчына, на грудзях у яе шыльдачка: "Дапамажыце хвораму дзіцяці". А вось на халоднай зямлі сядзіць бабуля. Ідзеш далей і сустракаеш дзяцей, якія хапаюць за адзенне, просяць есці. Ад жалю, ад таго, што не можаш дапамагчы гэтым людзям вочы напаўняюцца слязьмі. Узнікаюць пытанні: чаму так абнішчаў наш народ? Ці будуць лепшыя часы? Хто ў адказе за гэта?..

**Вікторыя МІРАНЮК, 7 клас**

# Не кідайце сабак

У доме з'явілася шчаня – прыгожы пудзель. Сабака адразу спадабаўся ўсёй сям'і. Кожны хоча пагуляць з ім, пакарміць яго. Але маленькі сабачка нічога не разумее. Ён грызе мэблю, рве шпалеры на сценах. Спачатку гаспадары церпяць, але праз месяц гэты мілы, маленькі пудзель становіцца непатрэбным нікому. Яго выганяюць на вуліцу. Так на аднаго бяздомнага сабаку становіцца больш. Спачатку ён будзе бегаць за прахожымі па вуліцы, спадзеючыся, што хто-небудзь возьме яго сабе, пакуль яго не зловіць сабакалоў.

Колькі ўжо ходзіць гэтых змучаных, галодных жывёл па нашых вуліцах? Бяздомнымі становяцца не толькі дваровыя, але і пародзістыя сабакі. Людзі не задумваюцца над тым, што яны павінны несці адказнасць за жывёлу, калі яны бяруць яе дамоў. Падумайце над гэтым!

**Надзея АГЕЕВА, 13 гадоў**

ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

# Протоколы Жировичского окружного съезда духовенства



(З'езд адбываўся ў снежні 1897 г. пад старшынствам благачыннага Аляксандра Кадлубоскага. За сакратара быў Лука Смактуновіч. Публікуем некалькі пратаколаў з'езда, якія будуць цікавыя для чытачоў – **С.Ё.**)

**Протокол №1. 1897 года, декабря 18 дня.**

Местечко Жировичи.

Депутаты Жировичского училищного округа в утреннем своем заседании слушали прошение псаломщика Песковской церкви Слонимского уезда Михаила Люльковского об покрытии недоимки оплаты учебы его сына в истекшем 1896-97 учебном году. Постановили: просителю псаломщику Михаилу Люльковскому отказать, за неимением свободных сумм по училищу на покрытие его недоимки и в виду того, что подобное обстоятельство может служить поощрением и для других уклоняться от аккуратных платежей за содержание воспитанников Жировичского духовного училища.

**...Протокол №4, 1897 года, декабря. 19 дня.**

Депутаты Жировичского учебного округа слушали словесное заявление г. смотрителя училища об увеличении платы за право учения воспитанников в училище до 75 руб. в год. Постановили: в виду дороговизны житейских припасов и для улучшения пищи учеников увеличить плату за содержание каждого ученика с 65 руб. до 75 руб. в год с 1 января 1898 года.

**...Протокол №10. 1897 года, декабря 19-го дня.**

Депутаты Жировичского округа слушали словесное заявление г. смотрителя училища о необходимости приобретения третьей лошади для училища. Постановили, признавая заявление г. смотрителя училища заслуживающим уважения, тем более, что третья лошадь зачастую нанимается на средства училища для подвоза закупленных продуктов из г. Слонима, – приобрести третью лошадь на средства остаточные, если таковые будут в 1898 году.

**Протокол №11. 1897 года, декабря. 19-го дня.**

Депутаты Жировичского училищного округа слушали отношение г. смотрителя училища от 18 декабря за № 17, о необходимости назначить для наблюдения за учениками третьего надзирателя. Постановили: заявление г. смотрителя училища признать заслуживающим уважения и на содержание 3-го надзирателя в училище ассигновать от каждой приходской церкви по одному рублю и десяти копеек, считая в округе 217 церквей. Деньги сии по 1 руб. 10 коп. вносить по полугодично вместе с другими взносами от церквей на содержание Жировичского духовного училища.

**"Литовские Епархиальные Ведомости", №4, 25 января 1898 г.**

# Фармаванне беларускай арміі

Фармаванне беларускай арміі ідзе наперад шыбкімі шагамі. Приступлена да загатоўкі абмундзіраваньня для салдат і афіцэраў. Вайсковай камісіяй прыняты энэргічныя меры да хутчэйшага пераводу яе ў Мінск. Галоўнакамандуючы палкоўнік Канапацкі навязаў адносіны з Гродзенскай камендатурай.

Глаўны пункт фармаваньня – места Слонім, дзе будуць стаяць два батальёны лікам неабмежаваныя. Там-жа будзе адбывацца абучэньне, абмундзіраваньне і адпраўка на фронт. Ва ўсіх паветах Беларусі арганізуюцца спецыяльныя вербунковыя бюро.

**Беларусь (Мінск), № 21(48), 13 лістапада 1919 г.**

СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

† НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:

| | |
|---|---|
| **Слесарэвіч** Міхаіл Антонавіч | 1915 г.н. |
| **Сербін** Уладзімір Дзем'янавіч | 1905 г.н. |
| **Ракевіч** Мікалай Дзмітравіч | 1924 г.н. |
| **Малец** Валерый Мікалаевіч | 1964 г.н. |
| **Бараноўская** Алена Міхайлаўна | 1913 г.н. |
| **Шчарбакова** Яўгенія Піліпаўна | 1904 г.н. |
| **Вярбіцкая** Ксенія Пятроўна | 1911 г.н. |
| **Піменава** Кацярына Яфімаўна | 1928 г.н. |
| **Бяляеў** Іван Паўлавіч | 1922 г.н. |
| **Смокат** Іван Фёдаравіч | 1940 г.н. |

†

Выражаем искреннюю благодарность работникам мясокомбината, ДУ-7, соседям за оказанную помощь в похоронах

**РАКЕВИЧА Николая Дмитриевича.**

Низкий поклон вам, добрые люди!

Семья Ракевич.

ІНТЭРВ'Ю З АСУДЖАНЫМ НА СМЕРЦЬ

# "Вельмі не хочацца паміраць у 28 гадоў"

Валянцін ЧУРЫЛА, "ГС"
Слонім — Светлагорск — Слонім

**Нядаўна наш карэспандэнт ўдзельнічаў у семінары для работнікаў мас-медыя па праблемах СНІДа, які праходзіў у Светлагорску. Вядома, што гэты горад лічыцца беларускім цэнтрам па распаўсюджванню чумы XX стагоддзя. Паўтары гады назад у Светлагорску ўпершыню было выяўлена два ВІЧ-інфіцыраваных. Сёння іх налічваецца ўжо звыш тысячы чалавек, большасць з якіх — наркаманы. Па сцвярджэнню медыкаў, жыццё хворых можа абарвацца ў любы момант. У аднаго з асуджаных на смерць наш журналіст узяў інтэрв'ю, якое той пагадзіўся даць. Сустрэчу дапамаглі арганізаваць светлагорскія дактары.**

***...Я адчыніў брамку і трапіў на асфальтаваны падворак дома па ўказаным адрасе.***

***Мяне сустрэў з сумным тварам і са слязьмі на вачах бацька хворага. Пасля кароткага знаёмства ён правёў мяне ў пакой, дзе на ложку ляжаў мужчына, якому на выгляд можна было даць болей за пяцьдзесят гадоў. Павітаўшыся з ім, я прадставіўся і паведаміў аб мэце свайго візіту. Узняўшы даўно не стрыжаную галаву, мужчына пацiху распачаў сваю сумную споведзь.***

—Хоць у мяне ўжо няма ніякіх таямніц і ваш горад далёка ад Светлагорска, аднак усё роўна не называйце майго імя. Я ведаю, што жыць мне засталося нядоўга: можа з паўгода, а калі пашанцуе – некалькі гадоў. Аднак перад смерцю хочацца выгаварыцца.

Вы не паверыце, але мне 28 гадоў, маю вышэйшую адукацыю. У свой час закончыў палітэхнічную акадэмію, пасля атрымання дыплома доўга не мог знайсці працу. Гады два перабіваўся выпадковымі заробкамі. Потым нечакана пашанцавала: адна з прыватных мінскіх фірм прапанавала працу за межамі Беларусі. Гадоў пяць ездзіў у камандзіроўкі па былых краінах СНД. Купіў сабе хату, дасылаў грошы бацькам, якія тады жылі ў вёсцы. Аднавіў адносіны са сваёй сяброўкай-аднакурсніцай, якой прапанаваў выйсці за мяне замуж. Яна пагадзілася. Я паведаміў пра шлюб усім сваім блізкім і знаёмым. Перад вяселлем мой лепшы сябар Пятро неяк выпадкова прапанаваў мне: "Ты шмат, дружа, паездзіў па свеце і ў цябе, мусіць, былі розныя выпадковыя знаёмыя, таму схадзі праверся, на ўсякі выпадак". Хоць адчуваў я сабе здаровым, але сябра паслухаў.




***Хлопец на хвіліну раптам змоўк, нібыта нешта хацеў успомніць, і па яго шчаках, як гарох, пакаціліся слёзы. Хвілін з пяць я чакаў, пакуль ён прыйдзе ў сябе.***

—Калі мне доктар сказаў, што я заразіўся вірусам СНІД, то тыдзень я быў у шокавым стане. Гэтаму не хацелася верыць. Спачатку спадзяваўся, што гэта памылка медыкаў. Але калі паказалі вынікі паўторнага аналізу, амаль не страціў прытомнасць. Я гадзінамі плакаў ад сваёй бездапаможнасці перад тым, што здарылася. Спатрэбілася шмат часу, каб усё здолеў асэнсаваць і ўзяць сябе ў рукі. Я не шукаю вінаватых, бо ведаю, што ва ўсім вінаваты сам. Цяпер мяне не пакідае страх, што згублю ўсё дасягнутае: сяброў, родных. А самае страшнае тое, што ўсе стануць ведаць пра маю хваробу. Я спыніў усе адносіны з сябрамі, са сваёй будучай жонкай.

А самы вялікі грэх, які не даруе мне Бог, што не паехаў на пахаванне роднай маці, бо баяўся заразіць тых, хто там будзе.

Лежачы ў бальніцы, я настолькі дайшоў да адчаю, што спрабаваў накласці на сябе рукі: адарваў кавалак тэлефоннага кабеля, накінуў яго на шыю і скочыў уніз з вакна другога паверха...

Усю ноч роў ад злосці і роспачы, што мяне выратавалі ад смерці.

Каму я патрэбны на гэтым свеце.

Смерць для мяне становіцца бліжэйшай рэальнасцю, і гэта я адчуваю з кожным днём усё больш. Я разумею, што цуда ў на свеце не бывае. Тым не менш так хочацца верыць, што яны калі-небудзь здараюцца. На гэта спадзяюцца і мае былыя суседзі па палаце. У кожнага безнадзейна хворага ў сэрцы цепліцца малюсенькі агеньчык надзеі на выратаванне. Так хочацца спадзявацца, што мяне не пакінуць людзі ў бядзе, адзін на адзін са СНІДам. Акрамя таго чуў, што амерыканскія вучоныя знайшлі эфектыўныя лекі для лячэння гэтай хваробы.

Паверце, вельмі не хочацца паміраць у 28 гадоў.

***Закончыўшы сваю сумную споведзь, мужчына раптам адвярнуўся тварам да сцяны, закрыў галаву коўдрай і горка заплакаў...***

## Смерць ад пнеўманіі

**"ГС" пісала (№17, 24-30.04.98), што ў канцы красавіка ў Слоніме памерла жанчына з папярэднім дыягназам — сіфіліс. Тады вынікі аналізаў паказалі станоўчую рэакцыю Васэрмана, але з цягам часу высвятлілася, што смерць 47-гадовай Ірыны А. наступіла ад пнеўманіі.**

Як паведаміў намеснік галоўнага ўрача Аляксандр Якімовіч, нябожчыца пакутавала ад алкагалізму, за сваім здароўем не сачыла. У бальніцу яна паступіла ў цяжкім стане і выратаваць яе ўжо не было магчымасці. Па словах доктара, выпадкі смерці ад пнеўманіі вельмі рэдкія.

Сяргей ЁРШ

## Ситуация продолжает ухудшаться

**Только 10% родов в Беларуси проходят нормально, и год от года ситуация усугубляется.**

Об этом сообщила БелаПАН ведущий специалист Белорусского научно- исследовательского института охраны материнства и детства, кандидат медицины Татьяна Корнилова. Она отметила, что двадцать лет назад этот показатель составлял 30%. По словам ученого, главной причиной такой ситуации являются проблемы со здоровьем у большинства женщин и мужчин республики в репродуктивном возрасте, вызванные неполноценным питанием и болезнями. «Особого внимания требуют к себе женщины во время беременности, родов и в послеродовый период, когда из-за падения иммунитета у них обостряются все хронические заболевания», — подчеркнула Т.Корнилова.

## Без вины — виноватый

**В Могилевской области родился ребенок, мать которого ВИЧ-инфицирована.**

Мать ребенка, употреблявшая наркотики, узнала о том, что ВИЧ-инфицирована, уже будучи в роддоме.

Сейчас ребенок получает необходимое профилактическое лечение ретинолом, но говорить о его эффективности можно будет лишь через несколько лет. Сегодня в области под наблюдением находятся тридцать ВИЧ-инфицированных детей.

БелаПАН.

СОЦИАЛЬНЫЕ ПРОБЛЕМЫ

# Мы имеем право на медицинскую помощь

Владимир БЕЛЯКОВ,
депутат Верховного Совета Беларуси 13-го созыва

За последние 5 лет в Беларуси заболеваемость в целом возросла на 12,3%, в том числе среди детей – на 9,7%. Настораживает и беспокоит рост заболеваемости активным туберкулезом всех форм. Уровень заболеваемости туберкулезом в отдельных регионах превысил 60 человек на 100 тысяч населения, а в Гомельской области достиг 175 на 100 тысяч. При этом многие от туберкулеза умирают дома, что создает угрозу инфицирования детей и подростков. Безусловно, одним из основных факторов роста количества данного заболевания является снижение социальной защищенности населения.

По-прежнему высоким остается уровень смертности от сердечно-сосудистых заболеваний, превышающий уровень стран Европы. В частности, смертность в нашей республике в 1,6 раза выше, чем в Польше, и почти в 3 раза выше, чем в Великобритании.

Продолжается рост количества паразитарных и инфекционных болезней, психических расстройств.

За последние 7 лет заболеваемость населения сифилисом возросла более чем в 80 раз и имеет выраженную тенденцию к росту. Продолжается рост числа носителей ВИЧ-инфекции. По данным Республиканского центра профилактики СПИД, за 1997 год зарегистрировано 653 ВИЧ-инфицированных. По состоянию на 1 января 1998 года на учете состоят 1787 человек. Всего от СПИДа умерли 14 человек, из них 1 ребенок. В прошлом году отмечался значительный рост наркомании, алкоголизма.

Причины кризисного состояния здоровья населения – снижение жизненного уровня всех слоев населения, отсутствие у большей части населения возможности использовать эффективные препараты как с целью лечения, так и с целью профилактики.

Несмотря на столь очевидное ухудшение состояния здоровья населения, по-прежнему остается острым вопрос финансового обеспечения учреждений здравоохранения, которое составляет не более 70% от потребности. Учреждения здравоохранения, как и в 1997 году, находились на положении постоянных должников за приобретаемые в долг продукты питания (обеспеченность ими составляет 70% от нормы), медикаментами (обеспеченность – 50-60%). Не хватает денег в бюджете и на год нынешний. Даже при самом жестоком режиме экономии медикам недостает 5 триллионов рублей.

Низкая заработная плата – одна из основных проблем, которая препятствует должному развитию медицины. Анализ уровня среднемесячной заработной платы работников здравоохранения в общей системе оплаты труда различных отраслей экономики свидетельствует: в прошлом году зарплата в здравоохранении была значительно ниже заработной платы работников других отраслей. Так, если в 1996 году среднемесячная заработная плата работников здравоохранения составила 1 млн. 118 тыс. рублей и в среднем по народному хозяйству достигла уровня 92,8%, а к уровню в промышленности – 81,2%, то 1997 году эта пропорция резко изменилась в худшую сторону. Не случайно для дополнительного заработка медики вынуждены заниматься совместительством.

Нельзя не отметить и еще один чрезвычайно важный аспект нашего здравоохранения. Более-менее приемлемый уровень обеспеченности учреждений здравоохранения медикаментами в последние годы сохраняется за счет оказания гуманитарной помощи.

Становится ясным, что проблемы здравоохранения могут решаться только при решении проблем экономики республики, при открытости нашего общества.

